*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 15 (503)** **11 КРАСАВІКА 2001 г.**

# *Хрыстос уваскрос, беларусы!*



**У "Вербную нядзелю" каля касцёла Св. Сымона і Алены.**
Фота Віктара Талочкі, БелТА.

## Хрыстос васкрос

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасць
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей.
Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна святая думка
З канца ў канец, як свет вялік.
Хрыстос васкрос! - пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песні аб прадвесні,
Забыўшы ўсё усёй душой!
Хрыстос васкрос! - пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны.
Забыты бліжнімі сваймі.
Хрыстос васкрос! - пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхомоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.
Хрыстос васкрос!.. К Табе, о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка
Ўваскрэсне к лепшаму жыццю.

Янка Купала.

## Шэрагі ТБМ растуць

**22 сакавіка 2001 года на паседжанні Сакратарыяту ТБМ былі зарэгістраваны:**

1. Суполка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта "Альгерд" БДЭУ" - 7 сяброў, кіраўнік - Уладзімір Громак.
2. Суполка "Беларускі шлях" СШ № 184 і СШ № 190 Першамайскага р-на г. Менска, 6 сяброў, кіраўнік Яўген Сушчэня.
3. Суполка Мар'інагорскага сельскагаспадарчага каледжа - 12 сяброў, кіраўнік - Ірына Меляшкевіч.
4. Суполка ў СШ в. Лунна Мастоўскага р-на, 26 сяброў, кіраўнік - Алена Лука.
5. Суполка г. Мсціслава, 5 сяброў, кіраўнік - Юрась Маліноўскі.
6. Суполка вёскі Трошчыцы Карэліцкага р-на, 3 сябры, кіраўнік - Алесь Доўбік.
7. Бялыніцкая гарадская арганізацыя, 12 сяброў, кіраўнік - Сяргей Некрашэвіч.
8. Пінская раённая арганізацыя, 23 сябры, кіраўнік - Уладзімір Гук.
9. Слуцкая гарадская арганізацыя, 23 сябры, кіраўнік - Сяргей Гранік.

**5 красавіка 2001 года Сакратарыятам ТБМ былі зарэгістраваны:**

1. Мёрская гарадская суполка, 19 сяброў, кіраўнік - Вітольд Ермалёнак.
2. Суполка ў в. Цвецiна Мёрскага р-на, 3 сябры, кіраўнік Уладзімір Сівіцкі.
3. Суполка ў СШ № 2 г. Мёры, 8 сяброў, кіраўнік Уладзімір Кукуць.
4. Суполка ў СШ № 3 г. Мёры - 14 сяброў, кіраўнік - Алена Панізнік.
5. Калінкавіцкая гарадская суполка № 1, 4 сябры, кіраўнік - Ірына Калбасіна.
6. Калінкавіцкая гарадская суполка № 2, 3 сябры, кіраўнік - Аляксей Маневіч.
7. Калінкавіцкая гарадская суполка № 3, 3 сябры, кіраўнік - Дзяніс Рабянок.

### Паведамленне з Мазыра

24 сакавіка 2001 г. адбыўся справаздачна-выбарчы сход Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ. Старшынёй Рады ізноў абрана Людміла Піскун. На сходзе закранал ася пытанне пра стан беларускамоўнага школьніцтва горада Мазыра. Адным з пытанняў у парадку дня было стварэнне суполак па месцы працы (такіх суполак у Мазыры яшчэ няма). Ад Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ былі вылучаны тры дэлегаты на VII з'езд ТБМ.

### Навіны з Менска

26 сакавіка 2001 г. адбылася Рада Савецкага раёна г. Менска. Старшынём Рады абралі сп. Аляксея Галіча. Таксама была створана Рэвізійная камісія ў складзе двух чалавек. Ад Савецкага раёна г. Менска былі вылучаны пяць дэлегатаў на VII з'езд ТБМ.

13 красавіка а 18-й гадзіне ў сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) адбудзецца чарговы гістарычны семінар на тэму "Усяслаў Чарадзей і беларуская гісторыя". Кіраўнік семінару Уладзімір Арлоў. Запрашэнні неабходна набыць папярэдне ў сядзібе ТБМ. Даведкі па тэлефоне 2-84-85-11.

5 траўня ў 11.00 у Дольнай зале Чырвонага касцёла адбудзецца чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны і Рабочай групы па распрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі.

## *Як у нас судзяць...*

Хачу падзяліцца з чытачамі "Нашага слова" сваімі ўражаннямі ад суда над маім сынам, Вінцуком Вячорка, сябрам Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, які быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у святкаванні Дня волі 25 сакавіка.

Не буду казаць пра сам ход і відавочныя нелагічныя паводзіны суддзі Наталлі Вайцяховіч, якія былі зразумелыя нават мне, чалавеку далёкаму ад юрыспрудэнцыі. Я распавяду толькі пра тое, як ставіцца такая дзяржаўная ўстанова, што павінна пільна ахоўваць законы, да мовы тытульнай нацыі.

Калі сын заявіў пра сваё права, каб судовая справа вялася на яго роднай мове (пытанні суддзі, непасрэдна ход судовага працэсу, урэшце – пратакольны запіс), суддзя вельмі разгубілася, пачала ліхаманкава гартаць адміністрацыйны кодэкс, шукаючы адпаведную старонку і каментуючы сітуацыю такімі словамі: "Мне кажется, что у нас два государственных языка – русский и белорусская мова".

З прычыны таго, што ніхто з прадстаўнікоў суда не валодаў "другим государственным языком", што дарэчы пярэчыць дзеючаму Закону "Аб мовах", паседжанне было перапынена на 5 хвілін (для дарадчых мэт), якія ўрэшце ператварыліся ў цэлую гадзіну. Нашы журналісты ўспрынялі гэтую акалічнасць даволі спакойна, бо такая сітуацыя – тыповая і, на жаль, будзённая. Замежным журналістам давялося глумачыць, у чым тут справа. Зразумеўшы, яны толькі разводзілі рукамі са словамі: "Нонсэнс! Нонсэнс!"

Перакладчыка адшукалі аж на наступны дзень. Я меркавала, што гэта будзе нейкі адмысловы спецыяліст, які імгненна рэагуе на слова, дакладна і зразумела кладзе яго на іншую мову. І зноў – нонсэнс! Не, гэта была не трасянка! Не выкарыстоўвала перакладчыца таксама такі моўны інструмент як інтэрферэнцыя. Прасцей – былі перамяшаныя словы абедзвюх моў. А яшчэ дакладней – дэманстратыўны, цынічны здзек з беларускай мовы.

Прысутныя не маглі сканцэнтраваць сваю ўвагу на сэнсе агучанага, бо ў свядомасці міжволі фіксаваліся толькі бездапаможныя высілкі перакладчыка, і кожны з цяжкасцю мог зразумець, пра што ідзе гаворка. Пакуль мы разбіраліся ў сэнсе сказанага на невядома якой мове, суддзя аб'явіла прысуд, дарэчы не даўшы апошняга слова падсуднаму, паставіўшы ў справе кропку: 15 сутак арышту. Прысуд канчатковы, абскарадженню не падлягае.

У мяне склалася ўражанне, што гэтая камедыя разыгрывалася адмыслова. Як лёгка ў такіх абставінах адцягнуць увагу ад самага галоўнага, ад сутнасці! Як можна непрыкметна падмяніць нейкія паняцці, нават асобныя словы, спаслаўшыся потым на недакладнасць перакладу.

Вось такое мы маем дзвюхмоўе!

***А. Вячорка.***

№ 15 (503) 11 КРАСАВІКА 2001 г. наша слова

Павел Сцяцко

# Культура мовы

### Пра штучнасць, ненатуральнасць некаторых мовазнаўчых тэрмінаў

У навучальных дапаможніках, падручніках і лексікаграфічных даведніках побач з натуральнымі мовазнаўчымі тэрмінамі сустракаюцца і штучныя, неапраўданыя іх формы. Разгледзім некаторыя з іх.

***Злучальнае слова.*** Першы кампанент гэтага найменя мае наступныя значэнні, зафіксаваныя "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы" (Т.2. Мн., 1978. С.482): "Злучальныя, -ая, -ае. 1. Які служыць для злучэння чаго-небудзь; прызначаны для злучэння: злучальная трубка. 2. Які служыць для злучэння частак складанага слова. Злучальныя галосныя. // Які служыць для злучэння аднародных членаў сказа або частак складазлучальнага сказа. Злучальныя злучнікі. // Які паказвае на злучэнне. Злучальная сувязь".

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) падае словы толькі з адным значэннем: "Злучальны, -ая, -ае. Які служыць для злучэння, змацавання чаго –н. Злучальная тканка... Злучальныя галосныя... Злучальныя злучнікі... (С.243).

Ніводны з тлумачальных слоўнікаў не фіксуе ўжыванага ў мовазнаўчых тэкстах наймення ***"злучальныя словы"***, за якімі замацаванае паняцце *'займеннікавыя словы, якія выкары-стоўваюцца для сувязі дададзеных частак у складаным сказе'*. Як вядома, ролю злучэння частак складанага сказа (як і слоў у простым сказе) стала выконвае адмысловая службовая часціна мовы злучнік. Таму натуральнае найменне для тых сінтаксічных адзінак, якім уласцівая гэтая функцыя, ёсць ***злучнікавыя словы – словы, якія выконваюць фунцыю злучніка (не губляючы свае асноўнае ролі членаў сказа як самастойных часцінаў мовы).***

У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года падаецца (у артыкуле "Злучнік", с. 243) слова ***злучнікавы,*** як вытворны прыметнік ад назоўніка ***злучнік.*** Яно якраз натуральна адпавядае таму зместу, які замацаваны за словам ***"злучальны"*** ў найменні ***"злучальнае слова"***. Але замацаваны неапраўдана. Перакладныя слоўнікі падаюць слова ***"злучальны"*** толькі з наступнымі расейскімі адпаведнікамі. У "Беларуска-рускім слоўніку" (Т.І.Мн.,1988. С.251-252) чытаем: "Злучальны. 1. биол., грам. соединительный; 2. грам. сочинительный; злучальная сувязь – сочинительная связь; злучальная тканка – соединительная ткань".

Але ніводны з перакладных слоўнікаў слова ***злучнікавы*** не падае. Між тым у спецыяльным даведніку "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн., 1988. С.114) зафіксавана: ***союзное местоимение – злучнікавы займеннік, союзное наречие – злучнікавае прыслоўе.*** Тут тэрмін ***"злучнікавы"*** дакладна перадае той змест, які мае ў расейскай мове слова ***"союзный"***. Найменне ж ***"злучальнае слова"*** ніяк не стасуецца з тым, што перадае рас. ***"союзное слово"***, пра што яскрава сведчаць згаданыя аналітычныя тэрміны (***"союзное местоимение – злучнікавы займеннік"*** і інш.).

Натуральны, апраўданы тэрмін ***"злучнікавае слова"*** выкарыстоўвае "Тлумачальны слоўнік" 1996 года. На с. 175 чатаем: "Дзе. 1. займ. прысл. І злучнікавае слова. У якім месцы. Дзе вы працуеце? Горад, дзе я жыў".

Прааналізаваны матэрыял яскрава сведчыць, што паняцце *'сінтаксічная катэгорыя, дзе займеннікі і прыслоўі (займеннікавыя), не губляючы сваёй семантыкі, выконваюць ролю злучніка'*, дакладна выяўляецца (перадаецца) найменнем ***"злучнікавае слова"***, а назва ***"злучальнае слова"*** толькі зацямняе гэты сэнс. Прыкладам падобнага кшталту, калі форма слова не стасуецца з тым зместам, які мусіць перадаваць, ёсць і тэрмін ***"апрошчанне"***. Сутнасць граматычнай з'явы, абазначанай ім, у тым, што падчас развіцця мовы адбываецца спрашчэнне будовы асновы слова: раней падзельная аснова, што складалася з дзвюх ці болей марфемаў, стала непадзельнаю – марфемы зрасліся ў адно цэлае, аснова спрасцілася да адной марфемы: ***жы-в-от > жывот, да-р > дар.***

Таму і тэрмін мусіць мець адпаведную матываваную структуру: ***спрашчаца --> спрашчэнне***, а не ***"апрошчанне"***, у якім няма матывавальнай асновы.

Не стасуецца таксама форма ***"шыпячыя (гукі)"*** з паняццем, якое абазначаецца тут. У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С.768) чытаем: "Шыпячыя, -ая, -ае. Пра гукі мовы: які вымаўляецца з шыпеннем. Шыпячыя зычныя (ж, ш, ч)". Але ж калі гукі "вымаўляюцца з шыпенем", то і натуральная назва іх – ***шыпенныя***. Да таго ж беларускай мове неўласцівыя дзеяслоўныя формы з суфіксам ***–ач –(-яч).*** Форма ***"шыпячы"*** – механічна перанесенае расейскае ***"шипящий"***.

Тае сама і ***свісцячы (< рас. свистящий)***. На месцы гэтага пазычання натуральным ёсць ***свісценныя*** гукі.

Таксама пярэчаць натуральнаму ладу беларускай мовы сінтаксічныя тэрміны ***член (сказа), састаў (дзейніка і выказніка), аднасастаўны і двухсастаўны сказ.*** Старaславянізму ***член*** дакладна адпавядае сваямоўнае ***складнік (сказа)*** – *'тое, што складае сказ, неабходны кампанент яго'*. Тут і галоўныя складнікі, без якіх (ці аднаго з іх) не можа быць сказа як прэдыкацыйнай адзінкі, і дадзеныя складнікі, якія разгортваюць граматычную аснову сказа.

Слова ***"састаў"*** – ад ***"састаўляць"***, што ўласціва расейскай мове. У беларускай яму натуральна адпавядаюць лексічныя адзінкі: ***склад, складаць, складваць, складальнік (рас. составитель).***

Туму апраўданымі адпаведнікамі расейскіх граматычных тэрмінаў ёсць наступныя беларускія: ***состав подлежащего – склад дзейніка, состав сказуемого – склад выказніка, односоставное и двухсоставное предложение – аднаскладны і двухскладны сказ.***

Пазычанням ***"нечлянімы (сказ)"*** і ***"расчлянёны (сказ)"*** адпавядае сваямоўнае ***непадзельны (сказ)***. Форма ***"члянімы"*** парушае словаўтваральную заканамернасць беларускай мовы, якой неўласцівы суфікс ***–ім***; параўн. рас. ***гонимый – гнаны, негасимый – непагасны, (не) излечимый – (не) вылечны...***

### Пра некаторыя моўныя адзінкі тэрміналагічнага кшталту

***Называльны і назоўны.*** Слова ***называльны*** надта выразна выяўляе існасць таго, што абазначана ўтваральным дзеясловам ***называць: называльны*** – *'той, які называе'*. У гэтым прыметніку захаваная цалкам утваральная аснова ***(называ-(ць)-льны)***. А таксама ак-цэнтаванне яе ***(называць і называльны)***. У прыметніку ж ***назоўны*** – скарочаная аснова, ён можа звязвацца з ***"назыў" (назыўны)***. Таму матывавальнасць яго сэнсу не такая выразная. Як відаць, усе перавагі мае форма ***называльны.***

Слова ***называльны*** зафіксаваў і РБС-53. На с.167 чытаем: ***"Знаменательный – грам. называльны; знаменательные части речи – называльныя часціна мовы".*** Тлумачальныя слоўнікі таксама засведчылі: "Называльны, -ая, -ае. Спец. Які мае адносіны да называння. Называльная функцыя слова". (ТСБМ.Т.3.Мн.,1979,с.251; ТСБЛМ. Мн., 1996,с.365).

На жаль, выразны тэрмін ***"называльная часціна мовы"*** пазней быў заменены на цьмяны ***"знамянальныя часціны мовы"*** (перароб-ленае рас. ***знаменательные).*** А ў навучальных дапаможніках замест ***называльная (інакш намінацыйная)*** функцыя мовы ўжываецца невыразнае ***назыўная (<рас. назывная).***

*(Працяг у наступных нумарах.)*

# Чаму парушаюцца правы праваслаўных вернікаў?

Апоўначы, адразу пасля 24 гадзін прамінулага 24 снежня, я нечакана прачнуўся вельмі ж здзіўлены рэдкасным фактам, - усё яшчэ працавала дротавае радыё. Аказваецца, у вядомым на ўсю Беларусь знакамітым касцёле Святых Сымона і Алены праходзіла ўрачыстае набажэнства з нагоды велічнага хрысціянскага свята – народзін Хрыста. Таленавіты прамоўца ксёндз – пробашч Завальнюк у суладдзі з хорам пеўчых на цудоўнай беларускай мове высока славіў з'яўленне ў свет божы роўна дзве тысячы гадоў таму вялікага чалавечага збавіцеля. Мне ўжо было не да сну, вельмі ж прыемна было і па радыё слухаць трансляваную імшу.

Мне, як чалавеку праваслаўнага веравызнання, нават вельмі крыўдна зрабілася з-за існага няроўнапраўя ў асяроддзі аднаго народа, - беларусы – каталікі маюць такую прыемную магчымасць чуць і даносіць да Бога малітвы на роднай мове, а нам – праваслаўным беларусам вось ужо два апошніх стагоддзі даводзіцца, бы нейкім пракажаным, карыстацца ў набажэнствах толькі рускай мовай, мовай, фактычна, не роднай, бо роднай для беларусаў з'яўляешча толькі свая беларуская, як для расіян – руская, кітайцаў – кітайская, французаў – французская і г.д. За якую ж такую цяжкую правіннасць над беларусамі завісла такое працяглае і ганебнае наканаванне – размаўляць нават з Богам на чужацкай мове? Мо, за тое, што дзвесце гадоў таму нашы продкі так лёгка дазволілі расійскім імперцам скасаваць вуніяцкую канфесію, якая так рупна аб'ядноўвала два хрысціянскія кірункі, каталіцкі з праваслаўем, спрыяла самай цеснай кансалідацыі беларускага народа – ў барацьбе за лепшую будучыню, выкарыстоўваючы ў набажэнствах толькі беларускую мову і звычаі.

Усё ж, не для таго Уладар Сусвету ўзнагародзіў мой народ такой прыгожай і гнуткай мовай, адной з лепшых у свеце, каб яе сёння цураліся і нават абражалі розныя звадыякі-адшчапенцы. А гэты боскі дар ужо адкрыта ігнаруюць малыя і вялікія чыноўнікі і разам з імі – царкоўныя служакі сённяшняга праваслаўнага расійскага веравызнання. Гэткія зневажальныя адносіны да беларускага слова з'яўляюцца, фактычна найвялікшым грахом, мабыць, недарэмна, да патрэбных глыбінь майго чуйнага сэрца не даходзяць казанні сённяшніх праваслаўных святароў, звернутых да Бога на чужой мне мове.

Чамусьці толькі ў Беларусі праваслаўе прадстаўлена адной, нават пануючай канфесіяй – РПЦ. А куды ж падзелася БПЦ. Законнае права на ўласную нацыянальную праваслаўную канфесію маюць і беларусы, як украінцы, грузіны, армяне, у якіх такія праблемы даўно вырашаны. Тады б і не паўставала пытання аб мове набажэнства.

Нярэдка можна пачуць у бліжэйшым наваколлі, даведацца ў СМІ шмат нягеглага ды абсурднага "прагназавання" адносна быццам бы наканаванага драматычнага знікнення з ужытку беларускай мовы. Але ўсё гэта выдаткі смутнага часу. Не дапусціць сам Бог і лепшыя прадстаўнікі беларускага народа канчатковай расправы над беларускамоўем, - яно не тое вытрывала. Цвёрда веру, - прыйдзе ў хуткім часе той даўно чаканы, жаданы дзень, калі роднае беларускае слова акрыяе, умацуецца і зноў займе, ужо назаўсёды, свой законны пасад у незалежнай ад нікога (ні ад захаду, ні ад усходу) Беларусі, як гэтакае адбылося ў некалі паняволеных Чэхіі, Славакіі, Ізраілі (які аж праз 1700 гадоў вярнуў разам з дзяржаўнасцю і родную мову).

За колькі дзён Вялікдзень. І зноў я не пачую праваслаўнага набажэнства па-беларуску. Можа хоць ксёндз Завальнюк скажа па-беларуску і да праваслаўных беларусаў, балазе Вялікдзень сёлета разам.

***Мікола Плавінскі – стары віцебскі краязнаўца.***

# "Паяднала нас любоў да роднага слова"

***"... Жанчына адыходзіць як стагоддзе***
***І я хачу стагоддзе затрымаць..."***
***(Леанід Дранько-Майсюк)***

"Самае каштоўнае – чалавечыя зносіны", - сцвярджаў Сент Экзэпюры. Сёння можна сказаць гэта не галоўнае, не важнае і не каштоўнае, прайшла пераацэнка каштоўнасцяў. Так здарылася, што мамы маіх вучняў сталі маімі добрымі сябрамі, а дзеці найлепшых сяброўак, выпрабаваных гадамі, перайшлі ў беларускую школу...

...Адчыняюцца шпіталю дзверы і бачу ногі ў лапцях, падымаю вочы – Галіна Стральчэня. І так яна прыходзіла праз дзень, і потым столькі яна дапамагала карыснымі парадамі, яна цудоўны медык і добры, душэўны чалавек. Такімі ж вырастуць і яе дачушкі Маргарыта і Эмілія...

Галіна Раманчук – актыўна ўдзельнічала ўва многіх беларускіх імпрэзах ТБК, потым прыходзіла часта ў школу, цікавілася жыццём вучняў, іх поспехамі, ганарылася. Яе сын Алег Раманчук спяваў у школьным хоры, удзельнічаў у конкурсах чытачоў, ён закончыў музычную школу, вучыцца ў мастацкай. Галіна Малько, яна добрага вучня свайго сына Дзіму перавяла ў беларускую школу, нягледзячы на розныя негатыўныя водгукі, накшталт, навошта гэта беларуская мова, каму яна патрэбная! Мне – адказала Галіна. Гэта іх сям'я мае ўнікальныя рэрытэты – "Беларускі лемантар", выдадзены ў 1912 годзе суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконца" у Пецярбурзе, зборнік "Вянок" Максіма Багдановіча. Арыгінал. Газеты "Беларуская думка". Збіраюць асобную беларускую бібліятэку. Наташа Вераценнікава, Ядзя Бараноўская, Ганна Яцкевіч і іншыя. Разам ганарымся поспехамі дзяцей, палюбілі беларускую літаратуру, гісторыю. У кожнай ёсць кнігі М. Ермаловіча "Беларуская дзяржава. Вялікае княства Літоўскае", перавыдадзеныя кнігі Ул. Арлова "Адкуль наш род" і "Ефрасіння Полацкая", зборнікі Леаніда Дранько-Майсюка, Ул. Содаля. Галоўнае нас паяднала любоў да роднай мовы. Раіса Жук-Грышкевіч прыслала каштоўны падарунак на дзень народзін Ксеніі, падтрымоўваем зносіны актыўным ліставаннем. Мне неяк сказаў знаёмы, які шмат павандраваў па свеце, што самыя прыгожыя на свеце беларускія жанчыны. Можна дадаць, што і самыя добрыя на свеце беларускія жанчыны. Мы часта сустракаемся, абмяркоўваем розныя пытанні, плануем працу ў троцкай беларускай суполцы, рыхтуемся да святаў, наведваем могілкі беларускіх дзеячоў. Гэта нам неабходна і патрэбна, як паветра.

***Леакадзія Мілаш,***
***Вільня 2001 г.***

**19.04, 25.04, 03.05**

**ЗАПРАШАЕМ У ТЭАТРАЛЬНУЮ ЗАЛУ ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА**

**Тры сустрэчы з песнямі Алеся Камоцкага і Рыгора Барадуліна. Да вашай увагі:**

1. **"Зорка спагады" (рамансы і песні ў аранжыроўцы Уладзіміра Ткачэнкі).**
2. **"Псалмы і балады" (біблейскія матывы).**
3. **"Асяніна" (пераклады філасофскай лірыкі Ганада Чарказяна).**
4. **"Гойкнуў баравік" (народныя спевы ў выкананні Рыгора Барадуліна).**

**У сустрэчах возьмуць удзел:**
**Галіна Дзягілева, Ганад Чарказян, Уладзімір Ткачэнка.**

№ 15 (503) 11 КРАСАВІКА 2001 г. НАША СЛОВА

Праект

# СТРАТЭГІЯ

## развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі

Падрыхтавалі: С. Запрудскі, А. Анісім, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, А. Таболіч, Г. Цыхун

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)*

**1.2 Курсы беларускай мовы**

Пераважная большасць пасіўных носьбітаў беларускай мовы саромеецца карыстацца беларускай мовай з цэлага шэрагу прычынаў, але галоўнай з'яўляецца адсутнасць практыкі штодзённага карыстання. Прагрэс можа быць дасягнуты і ў працы з дарослым насельніцтвам. Дарослыя, якія жадаюць вывучаць беларускую мову, павінны забяспечвацца такой магчымасцю ў поўным аб'ёме.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Распрацоўка шэрагу падручнікаў для розных катэгорыяў навучэнцаў з улікам прынцыпаў сучаснай методыкі і сучасных тэхналогій.

❖ Ува ўсіх курсах прадугледжваць знаёмства навучэнцаў з гістарычна-культурнай спадчынай беларусаў.

❖ Пры арганізацыі курсаў у рэгіёнах ладзіць сустрэчы слухачоў з прадстаўнікамі беларускай эліты - пісьменнікамі, паэтамі, мастакамі.

❖ Распрацаваць механізмы самафінансавання курсаў беларускай мовы ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

### РАЗДЗЕЛ II
### Забеспячэнне магчымасцяў для ўжывання мовы

**2.1 Групы насельніцтва, з якімі трэба працаваць**

**А. Дзеці**

Чым раней чалавек пачынае вывучаць мову, тым лепей, і тым больш гэтая мова здаецца яму натуральнай. Дзеці звычайна не маюць забабонаў у адносінах да якой-небудзь мовы, і шырокая праца з імі закладае падмурак для звычак карыстання моваю на ўсё жыццё.

**Б. Маладыя людзі**

Моладзь з'яўляецца найбольш актыўнай і дынамічнай часткай насельніцтва, якая ў меншай ступені залежыць ад негатыўных стэрэатыпаў у стаўленні да мовы і моўнай палітыкі. Праца сярод моладзі з'яўляецца найбольш эфектыўным шляхам да змянення стану беларускай мовы і яе статусу ў краіне.

**В. Прадстаўнікі прадпрымальніцкіх структур**

Прыватны бізнес ахоплівае ўсё большыя сферы нашага грамадства і важна, каб прадпрымальнікі бачылі выгоду ў выкарыстанні беларускай мовы не толькі пасіўна (надпісы, рэклама), а таксама як мовы абслугоўвання.

**Г. Грамадскія лідэры**

Грамадскі сектар Беларусі мае ўплыў па ўсёй тэрыторыі Беларусі і, што важна, у правінцыі, дзе ён ахоплівае значную частку моладзі і можа рэальна дапамагаць маладым людзям у ажыццяўленні іх праектаў праз пасрэдніцтва беларускай мовы.

**Д. Службоўцы дзяржапарату**

У нашым грамадтве важную ролю адыгрывае дзяржаўны апарат. Як вядома на працягу апошніх вякоў беларускі этнас развіваўся пры адсутнасці ўласнай дзяржавы. За стагоддзі існавання беларусы былі вымушаны выпрацаваць здольнасць прыстасоўвацца да знешніх абставінаў, заездджага чынавенства, якое як правіла не карысталася беларускай мовай. Мусіць дзякуючы гэтаму "прыстасавантсву" беларуская мова змагла захавацца на пабытовым узроўні, але каб мова загучала шырока ў грамадстве неабходна каб беларуская мова стала і мовай "начальства". Выкарыстанне службоўцамі беларускай мовы павінна падштурхнуць насельніцтва да больш шырокага ўжывання беларускай мовы ў грамадзкім жыцці.

**Дж. Прадстаўнікі традыцыйных канфесій Беларусі**

Рэлігійныя канфесіі традыцыйна маюць уплыў на пэўную частку насельніцтва, асабліва на людзей сярэдняга і сталага веку. Пазітыўнае стаўленне канфесій да беларускай мовы і яе выкарыстанне падчас службаў павінны даць пазітыўны вынік.

**Дз. Прадстаўнікі сілавых структур**

**Е. Работнікі грамадскай сферы**

*Дзяржаўнасць беларускай мовы не забяспечана механізмамі яе захавання і развіцця. Механізмы ж выцяснення беларускай мовы, пабудаваныя за мінулыя дзесяцігоддзі, працягваюць працаваць і цяпер.*

**2.2 Сферы і спосабы ўздзеяння**

Трэба стварыць умовы, якія б забяспечылі магчымасці ўжываць беларускую мову натуральна ва ўсіх сферах жыцця. Дзеля гэтага неабходна выпрацаваць сістэму заахвочвання і падтрымкі для людзей, каб яны карысталіся мовай падчас працы, адпачынку або падчас атрымання паслуг. Заахвочваць трэба арганізацыі, установы, службы сервісу і транспарту, якія аказваюць свае паслугі пабеларуску. Таксама трэба забяспечыць магчымасць людзям ужываць беларускую мову і ў нефармальных сітуацыях. Інакш кажучы, павелічэнне магчымасцяў, хоць і апасродкавана, забяспечвае развіццё структур падтрымкі. Таму ў гэтым раздзеле неабходна прадугледзець не толькі сферы, у якіх варта сканцэнтраваць намаганні дзеля павелічэння колькасці носьбітаў мовы, але і прадугледзець канкрэтныя спосабы ўздзеяння на сітуацыю.

Варта ўлічваць і тое, што толькі паступовы рух наперад у вызначаных сферах, які будзе накіраваны перш за ўсё на пашырэнне магчымасцяў ужываць беларускую мову, а не штучнае "выцісканне" рускай мовы, можа прынесці пажаданыя перспектывы для беларускай мовы.

1) Сям'я.
2) Грамадскі сектар.
3) Дабраахвотніцкі сектар.
4) Прыватны сектар.
5) Работа і нефармальныя зносіны.
6) Інфармацыйныя тэхналогіі.
7) Электронныя СМІ.
8) Незалежная рэгіянальная прэса.
9) Кнігадрукаванне і распаўсюджванне друкаванай прадукцыі.
10) Рэлігійныя ўстановы.
11) Дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы.
12) Сілавыя структуры.
13) Дыялектныя арэалы.
14) Органы дзяржаўнага кіравання.

**1) Сям'я**

Самы трывалы асяродак функцыянавання мовы – гэта сям'я. Адначасова гэта і найбольш замкнёная сфера для грамадскага ўздзеяння. Але калі здолець змяніць моўныя звычкі ў сям'і, тады вельмі складана, нават у самых неспрыяльных умовах, зруйнаваць гэтыя асяродак.

Так, "новыя" гараджане, якія ў пасляваенныя гады, вырваўшыся з-пад калгаснага прыгнёту, трапляці ў горад, імкнуліся як мага хутчэй пазбавіцца мовы, што асацыявалася з вёскаю, беднасцю, галечай і пакутамі. Знешнія абставіны патрабавалі перайсці на "гарадскую" мову (мову заезджага начальства) – рускую. Але канчатковага знікнення ў гарадскіх беларускіх сем'ях беларускай мовы не адбылося. У большасці гарадскіх сем'яў у побыце ўжываецца "прамежкавая" мова – "трасянка". Трэба стварыць ўмовы для заахвочвання вяртання ў сем'і беларускай мовы.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Вярнуць ва ўжытак спрадвечныя беларускія імёны, па якіх адразу вызначаецца прыналежнасць іх носьбітаў да пэўнай нацыянальнасці. Дзеля гэтага распрацаваць і наладзіць выпуск каляровых улётак-іменнікаў для маладых маці і распаўсюджваць іх праз жаночыя кансультацыі і радзільныя дамы.

❖ Стварыць зборнік, цікавы па змесце для ўсіх сямейнікаў для навучання бытавой лексіцы.

❖ Стымуляваць пераход на беларускую мову разнастайных сямейных клубаў, курсаў, школ маладых маці.

❖ Ствараць беларускамоўныя гурткі па развіцці эстэтычных здольнасцяў у дзяцей малодшага ўзросту.

**2) Грамадскі сектар**

З моманту ўзнаўлення беларускай дзяржаўнасці ў 1991 годзе распачалося будаўніцтва грамадскіх арганізацый і адначасова супрацьдзеянне ім з боку дзяржаўнага апарату. Таму ўзнікла неабходнасць сумеснай працы і каардынацыі дзеянняў недзяржаўнага сектару. Як форма супрацоўніцтва ўзнікла Асамблея няўрадавых арганізацый Беларусі. Трэба адзначыць, што рабочай мовай пасяджэнняў Асамблеі стала беларуская. Большасць лідэраў НА ў стасунках паміж сабой выбіраюць беларускую мову, але рабочая мова персаналу і валанцёраў няўрадавых арганізацыяў, а таксама мова перапіскі, як правіла, руская.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Распрацоўка дапаможнікаў для грамадскіх арганізацый з выкарыстаннем дзелавой лексікі.

❖ Арганізацыя курсаў для валанцёраў НА па вядзенні справаводства і дзелавой перапіскі па-беларуску.

❖ Распрацоўка і распаўсюд праграм па правапісу арфаграфіі беларускіх тэкстаў.

❖ Развіццё партнёрства з рускамоўнымі НА ў сферы садзейнічання перакладам дзелавой інфармацыі на беларускую мову.

Як вынік ўзнаўлення незалежнасці краіны ў беларускім грамадстве за апошнія 10 гадоў значна павысіўся статус і профіль беларускай мовы. Для значнай часткі рускамоўных грамадзян беларуская мова з'яўляецца прыкметай незалежнасці і імкненнем да будаўніцтва свабоднай і дэмакратычнай грамадзянскай супольнасці. У працы грамадскіх арганізацый, рабочай мовай якіх з'яўляецца беларуская, з рускамоўнымі кліентамі павінны кіравацца ў сваёй дзейнасці практыкай заахвочвання тых, хто спрабуе выкладаць свае думкі па-беларуску, лаяльна ставіцца да выпадковых памылак. Не варта думаць, што пераход на "зручную" для кліента мову чымсьці палегчыць працу. Лепш будзе прапанаваць кліенту гаварыць па-руску, але саму паслугу аказваць пабеларуску. Варта ведаць, што прытрымліванне гэтай моўнай схемы ўпэўнівае кліента ў прынцыповасці пазіцыі грамадскай арганізацыі не толькі ў пытаннях мовы, але і ў цвёрдасці пазіцый арганізацыі ў пытаннях, па якіх непасрэдна звяртаецца грамадзянін. І наадварот: "флюгерная" пазіцыя выклікае насцярогу ў пасіўных носьбітаў беларускай мовы (якімі з'яўляецца абсалютная большасць грамадзян Беларусі). Але *самай памылковай* моўнай схемай з'яўляецца "агрэсіўная беларускамоўнасць", калі рускамоўны наведнік падвяргаецца прапагандысцкаму ўздзеянню і настойлівым патрабаваннем карыстацца беларускай мовай. Толькі ўважлівая і эфектыўная праца і высокі ўзровень аказання грамадскіх паслуг, якія выконваюцца па-беларуску, паўплывае на далейшае жаданне грамадзян вывучаць і ведаць беларускую мову і карыстацца ёй як мовай, што дае больш шырокія магчымасці ў грамадскім жыцці.

**3) Дабраахвотніцкі сектар**

Далейшае развіццё грамадзянскай супольнасці непазбежна вядзе да пашырэння дабраахвотніцкага сектару, асабліва ў сферы апекавання над хворымі, дзецьмі і моладдзю, працы з людзьмі з канкрэтнымі патрэбамі і ў кансультатыўных паслугах. Таму патрэбна павелічэнне магчымасцяў для ўжывання беларускай мовы, якія выходзяць ад дабраахвотніцкага сектару.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Арганізаваць беларускамоўны валанцёрскі рух.

❖ Заахвочваць дабраахвотніцкія арганізацыі і дапамагаць ім пашыраць ужыванне беларускай мовы.

❖ Назіраць за працэсам прыняцця моўных схемаў у дабраахвотніцкім сектары.

❖ Працаваць з прадстаўнічымі органамі ў дабраахвотніцкіх сектары дзеля садзеяння беларускай мове і палягчэння яе ўжывання ў гэтым сектары.

**4) Прыватны сектар**

**А. <u>Дробны бізнес</u>**

Вельмі важна, каб прыватны бізнес заўважыў выгоды ад ужывання беларускай мовы, і, як вынік, ён стане больш схільным да пашырэння функцый беларускай мовы ў гэтай сферы.

Найбольш спрыяльная атмасфера для фунцыянавання мовы склалася ў сферы дробнага бізнесу, бо мова спажыўца, як правіла, становіцца і мовай таго, хто аказвае паслугі.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Варта паказаць выгоды ад візуальнага афармлення тавараў і месцаў аказання паслуг з абавязковым выкарыстаннем беларускай мовы.

❖ Матываваць выкарыстанне ў візуальным афармленні беларускай мовы *(гэта пашырае кола кліентаў)*.

**Б. <u>Буйны бізнес</u>**

Іншае становішча склалася ў сферы сярэдняга і буйнога бізнесу. У сувязі з надзвычай вялікай залежнасцю гэтых сегментаў прыватнага бізнесу ад дзяржаўнага кантролю і рэгулявання, а таксама ад таго, што большасць спажыўцоў з'яўляюцца рускамоўнымі, неабходна працаваць у наступных кірунках.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Матываваць выкарыстанне беларускай мовы ў органах дзяржаўнага рэгулявання (падатковых інспекцыях, службах кантролю, дзяржаўным апараце – гл. раздзел *Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база*);

❖ У супрацоўніцтве са згуртаваннямі і таварыствамі спажыўцоў дамагацца выкарыстання беларускай мовы;

❖ На замежных рынках праз беларускія дыяспары ствараць спрыяльны фон для тых вытворцаў, што карыстаюцца мовай пры афармленні тавараў як на ўнутраным, так і на знешніх рынках;

❖ Стымуляваць выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў і аказанні паслуг шляхам распаўсюджвання інфармацыі пра наяўнасць такіх тавараў і паслуг;

❖ Матываваць выкарыстанне беларускай мовы ў сферах сярэдняга і буйнога бізнесу, шляхам дэманстрацыі пашырэння сферы збыту прадукцыі з выкарыстаннем беларускай мовы.

❖ Працаваць з грамадскай думкай, паказваючы, што выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў або аказанні паслуг з'яўляецца не толькі імкненнем для пашырэння рынкаў збыту, але і жэстам павагі да беларускага грамадства ў цэлым.

Грамадскія структуры, што падзяляюць палажэнні гэтай Стратэгіі, імкнуцца праводзіць конкурсы і апытанні на лепшага прадстаўніка сярэдняга і буйнога бізнесу ў сваіх рэгіёнах, якія арганізавалі бізнес з выкарыстаннем беларускай мовы.

Праект

# СТРАТЭГІЯ

## развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі

**Падрыхтавалі: С. Запрудскі, А. Анісім, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, А. Таболіч, Г. Цыхун**

**5) Работа і нефармальныя зносіны**

Беларуская мова павінна квітнець ва ўсіх сферах грамадства і тады яна стане здольнай да самастойнага выжывання. Таму трэба забяспечыць, каб людзям былі даступныя магчымасці ўжываць мову ва ўсіх стасунках адзін з адным, а таксама ў працэсе адпачынку і працы.

**А. Мова на працоўным месцы**

Неабходна мэтанакіравана праводзіць работу дзеля ўнясення беларускай мовы на кожнае працоўнае месца.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Ствараць беларускамоўныя календары (насценныя, настольныя, кішэнныя).

❖ Працаваць з вытворцамі арганізацыйных нататнікаў (арганайзераў), заахвочваючы іх выкарыстоўваць беларускую мову на старонках нататнікаў (матывуючы тым, што павялічыцца колькасць спажыўцоў менавіта такіх нататнікаў).

❖ Найбольшыя намаганні прыкласці ў сферы стварэння беларускамоўных абалонак для сучасных кампутарных праграм (гл. раздзел *Інфармацыйныя тэхналогіі*).

**Б. Сфера нефармальных зносін**

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Найбольш перспектыўным для стварэння магчымасцяў штодзённага карыстання беларускай мовай у нефармальных зносінах мусяць стаць спеўныя кавярні (KARAOKE). Стварэнне такіх кавярняў зможа значна палегчыць зносіны паміж людзьмі і паспрыяе адраджэнню беларускай песні, а таксама будзе спрыяць яе папулярызацыі. Для больш зручнага распаўсюду KARAOKE-тэхналогіяў варта стварыць у сеціве адмысловы спеўны сайт і на бясплатнай аснове распаўсюджваць музычныя творы.

❖ Неабходна стымуляваць прадпрымальнікаў на стварэнне беларускамоўных кавярняў і клубаў па інтарэсах (INTERNET-клубы, клубы заўзятараў), на аснове якіх маглі б фармавацца ўстойлівыя беларускамоўныя асяродкі;

❖ Праводзіць з арганізатарамі спартыўных клубаў працу, арыентаваную на стварэнне беларускамоўных спартыўных груп.

❖ Стварыць фірму "Беларускія сваты" ("Беларускі маршалак"), якая б аб'яднала людзей, што добра ўмеюць весці рэй на вяселлях або іншых падобных урачыстасцях.

**6) Інфармацыйныя тэхналогіі**

Неабходна распачаць працу над распрацоўкай больш прывабнага іміджу беларускай мовы ў сферы новых тэхналогій, што не дазволіць стаць мове непатрэбнай ва ўмовах сучаснага жыцця

Абмежаванні доступу беларускамоўным грамадзянам да СМІ і пастаянны ўціск на незалежныя выданні актывізавалі дзейнасць носьбітаў беларускай мовы ў сферы асваення інфармацыйных тэхналогій. Неабходна надалей матываваць пашырэнне рэсурсаў на беларускай мове ў сеціве (INTERNET).

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Неабходна развіваць сецевыя парталы па беларуску, у тым ліку ў даследчых і вышэйшых навучальных установах.

❖ Стымуляваць далучэнне да сеціва беларускамоўных школ і беларускамоўных карыстальнікаў.

Стрымвальным фактарам для развіцця інфармацыйных тэхналогіяў з'яўляецца амаль поўная адсутнасць беларускамоўных абалонак у сучасных кампутарных праграмах. Таму:

❖ Неабходна распачаць працу ў фармаванні каманд праграмістаў для напісання праграмных абалонак і далейшага ўдасканалення існуючых праграм па праверцы беларускай арфаграфіі.

***Інфармацыйныя тэхналогіі ў адукацыі.***

У сувязі з тым, што сістэма вышэйшай адукацыі ў краіне амаль выключна рускамоўная і што, нягледзячы на патрабаванні грамадскасці, улады краіны так і не стварылі ніводнай беларускамоўнай ВНУ, неабходна прыкладаць намаганні незалежна ад волі кіраўніцтва краіны ў наступных кірунках:

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ З дапамогай міжнародных адукацыйных праграм і фондаў стварыць сецевы партал дыстанцыйнага навучання і тым самым стварыць умовы для атрымання вышэйшай адукацыі па-беларуску з атрыманнем дыплома аднаго з еўрапейскіх ВНУ.

❖ Да стварэння партала прыцягнуць вядучых навукоўцаў і выкладчыкаў Беларусі.

❖ Для пашырэння кола студэнтаў неабходна стымуляваць стварэнне курсаў па сецевых тэхналогіях, матывуючы стварэнне сецевых клубаў і павелічэнне магчымасцяў доступу да сеціва ў рэгіёнах Беларусі.

**7) Электронныя СМІ**

Найбольшую занепакоенасць выклікае адсутнасць беларускамоўных электронных сродкаў масавай інфармацыі. Ад гэтага церпяць не толькі беларускамоўныя грамадзяне ў Беларусі, але і беларускія дыяспары ва ўсім свеце (асабліва вялікія па колькасці ў краінах СНД).

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

Для забеспячэння магчымасці карыстаца тэлебачаннем неабходна распрацаваць канцэпцыю і заснаваць беларускамоўны спадарожнікавы канал. Пры яго стварэнні карыстацца наступнымі прынцыпамі:

❖ З-за цяперашніх неспрыяльных палітычных умоў размясціць студыю па-за межамі Беларусі, што зробіць немагчымым закрыццё канала недэмакратычнымі кіраўнікамі дзяржавы;

❖ Рабіць даступнай тэлетрансляцыю і праз **сеціва**, забяспечыць кантакт з беларускамоўнымі тэлегледачамі з усяго свету;

❖ Стымуляваць і дапамагаць ініцыятывам, накіраваным на пераклад здабыткаў сусветнай кінематаграфіі на беларускую мову.

У сувязі з тым, што на тэрыторыі Беларусі дазволена трансляцыя вялікай колькасці тэлевізійных каналаў Расійскай Федэрацыі, што вядуць трансляцыі на рускай мове (ад 2 да 7 у залежнасці ад рэгіёна Беларусі), якія цалкам забяспечваюць патрэбы рускамоўнага насельніцтва краіны, а таксама з прычыны залежнасці Нацыянальнага беларускага тэлеканала ад уладных структур неабходна дамагацца праз групы ціску (гл. раздзел. *"Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база")*

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Рэарганізацыі дзяржаўнага тэлеканала ў грамадскае тэлебачанне, якое б забяспечвала інтарэсы ўсяго беларускага грамадства, а не толькі невялікай групы палітыкаў, што знаходзяцца ва ўладзе.

❖ Пераводу работы ўсіх беларускіх каналаў і рэгіянальных тэлестудый на беларускую мову вяшчання;

❖ Размяшчэння рэкламы на расійскіх каналах, што транслюецца для беларускіх спажыўцоў, толькі на беларускай мове.

**8) Незалежная рэгіянальная прэса**

Апошнім часам актыўна развіваецца незалежная рэгіянальная прэса. Але беларускамоўная прэса пакуль што не мае дастатковага патэнцыялу каб перавесці сваю працу на прафесійны ўзровень. Як правіла, камерцыйна- паспяховай з'яўляецца рускамоўная прэса, якая ў меншай ступені падпадае пад уціск з боку мясцовых уладаў.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

Неабходна распрацаваць доўгатэрміновую праграму падтрымкі беларускамоўнай прэсы ў якой прадугледзець:

❖ Навучанне мясцовых журналістаў і рэдактараў выданняў умовам працы ў рынкавых умовах.

❖ Стварэнне цэнтраў прававой дапамогі і кансультавання для рэгіянальных выданняў.

❖ Распрацоўка механізмаў кампенсацыі страт і падвышэння канкурэнтаздольнасці незалежных выданняў у параўнанні з газетамі, што падрымліваюцца дзяржавай.

❖ Спрыянне забеспячэнню газет аргтэхнікай і стварэнне некалькіх грамадскіх друкарняў з мэтай пазбегнуць практыкі адмаўлення дзяржаўнымі друкарнямі выконваць дамовы па палітычных і іншых прычынах.

**9) Кнігадрукаванне і распаўсюджанне друкаванай прадукцыі**

Не з-за спаду попыту на беларускамоўную кнігу, а з-за адмысловай палітыкі ў гэтай сферы сённяшняга дзяржаўнага кіраўніцтва адбыўся рэзкі спад вытворчасці беларускамоўнай кнігі. Праз сістэму дзяржаўнага гандлю беларуская кніга фактычна не трапляе ў рэгіёны Беларусі. Разбурыўшы сістэму недзяржаўнага выдання, таксама і па ідэалагічных прычынах, не выдаюцца лепшыя творы беларускай літаратуры.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Садзейнічаць пабудове сістэмы грамадскага кнігадрукавання, якой будзе значна лягчэй супрацьстаяць націску чынавенства на беларускую кнігу.

❖ Ствараць сецевыя (INTERNET) крамы для распаўсюджання беларускай кнігі не толькі ў межах Беларусі, але і сярод беларускіх дыяспар і кафедраў славістык ва ўсім свеце.

❖ Праз міжнародныя праграмы забяспечыць садзейнічанне перакладу твораў сусветнавядомых аўтараў на беларускую мову, так і твораў беларускіх пісьменнікаў на іншыя мовы.

❖ Ствараць "электронныя друкарні", якія б меліся выпускаць кніжную прадукцыю на кампактдысках у фармаце "электроннай кнігі" і такім чынам распачаць праект "Ненадрукаваная кніга" для тых аўтараў, якія не маюць фінансавых магчымасцяў для распаўсюджвання сваіх твораў у друкаваным выглядзе.

**10) Рэлігійныя ўстановы**

У свой час поліканфесійнасць беларускага грамадства адмоўна ўплывала на захаванне незалежнасці беларускай дзяржавы. Вельмі часта ў гісторыі Беларусі суседнія краіны скарыстоўвалі розныя веравызнанні і нізкую нацыянальную свядомасць насельніцтва для распальвання міжканфесійнай напружнасці. Але за савецкім часам уздеянне рэлігійных канфесіяў на грамадства значна аслабла. Зараз назіраецца актывізацыя духоўнага і рэлігійнага жыцця ў Беларусі. І менавіта на гэтым гістарычным этапе беларуская мова ў міжканфесійным жыцці павінна адыграць сваю аб'ядноўчую ролю.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Выкарыстоўваючы існуючыя міжканфесійныя суадносіны матываваць выкарыстанне беларускай мовы падчас рэлігійных службаў.

❖ Праводзіць працу з вышэйшымі духоўнымі асобамі і пастарствам па выкарыстанні беларускай мовы для розных катэгорый прыхаджан у залежнасці ад запатрабаванасці (як правіла прыхаджане маладога веку абіраюць беларускую мову).

❖ Актыўна асвятляць з'явы выкарыстання беларускай мовы ў храмах праз сродкі масавай інфармацыі.

❖ Матываваць увядзенне службы па-беларуску як галоўнага чынніка яднання і захавання міжканфесійнай талерантнасці.

**11) Дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы**

Улічваючы, што большая частка насельніцтва працуе на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на працу ў гэтай сферы. Кожны працоўны мусіць без перашкод карыстацца беларускай мовай.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Дамагацца ад любой службовай асобы забяспечанага заканадаўствам права атрымліваць на запыт ці зварот па-беларуску адказу на беларускай мове.

❖ Звяртаць увагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і устаноў на недапушчальнасць ігнаравання беларускай мовы падчас афармлення афіцыйных папер (загадаў, распараджэнняў, прапускоў), паколькі паўсюдна працуюць беларускамоўныя людзі, чые моўныя правы павінны задавальняцца. Незабеспячэнне неабходнымі інструкцыйнымі матэрыяламі на мовах, якімі карыстаюцца работнікі, можа станавіцца прычынай парушэнняў правілаў тэхнікі бяспекі. (гл. раздзел *Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база*).

**12) Сілавыя структуры**

Паколькі ў Беларусі існуе абавязковая вайсковая павіннасць і законапаслухмяны грамадзянін не мае права пазбегнуць выканання свайго абавязка перад Радзімай, трэба разглядаць вайсковае жыццё, як неад'емную частку грамадскага жыцця. Для любой арміі свету мовай афіцыйных зносін у войску з'яўляецца мова тытульнай нацыі. На сённяшні дзень праходжэнне вайсковай службы для беларускамоўных грамадзян з'яўляецца праблематычным, бо перавод службы на беларускую мову (хаця б некаторых падраздзяленняў) знаходзіцца ў кампетэнцыі Міністэрства абароны. Але грамадскасць павінна прыкласці намаганні для забеспячэння беларускамоўным грамадзянам права праходжання службы на роднай мове.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Садзейнічаць перакладу агульнавайскавых статутаў на беларускую мову.

❖ Ладзіць сумесна з вайсковымі спецыялістамі канферэнцыі і семінары з мэтай удакладнення і ўзгаднення вайсковай тэрміналогіі.

❖ Спрыяць правядзенню конкурсаў шыхтовых беларускіх песень.

❖ Матываваць перавод на беларускую мову жыцця элітных вайсковых падраздзяленняў узброеных сілаў.

❖ Аказваць метадычную дапамогу па беларускай мове вайсковым выданням.

❖ Падтрымліваць перавод працэсу навучання ў вайсковых ВНУ на беларускую мову.

❖ Дамагацца ад кіраўніцтва Міністэрства абароны распрацоўкі праграмы па пераводу большасці падраздзяленняў на беларускую мову;

**13) Дыялектныя арэалы**

Без сілкавання літаратурнай беларускай мовы дыялектнымі зваротамі і словамі немагчыма перспектыўнае развіццё.

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Стымуляваць узнікненне ў рэгіёнах беларусі краязнаўчых асяродкаў, спрыяючых збіранню і захаванню дыялетнай мовы;

❖ Распрацаваць праграму стварэння і падтрымання краязнаўчых мастацка-літаратурных часопісаў.

Праект

# СТРАТЭГІЯ

## развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі

Падрыхтавалі: С. Запрудскі, А. Анісім, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, А. Таболіч, Г. Цыхун

**14) Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база**

Неабходна выкарыстоўваць дзеючае заканадаўства з мэтай пашырэння ўжывання беларускай мовы ва ўсіх сферах, асабліва:

❖ у візуальным афармленні грамадскага карыстання (крамах, вакзалах, шыльдах, надпісах, указальніках і да т.п.);

❖ у гукавым афармленні (абвестках у грамадскіх месцах: у грамадскім транспарце, на вакзалах, аэрапортах, стадыёнах і г.д.);

❖ пры афармленні ўпаковак тавараў, этыкетках;

❖ у сферы рэкламы (радыё, газеты, тэлебачанне).

Існая заканадаўчая база дазваляе пазбягаць выкарыстання беларускай мовы, але ёсць і механізмы грамадскага ўздзеяння ў гэтых сферах. Варта лічыць, што ігнараванне беларускай мовы ў названых сферах з'яўляецца стварэннем перашкод і абмежаванняў у карыстанні дзяржаўнай мовай (арт. 172[2] Адміністратыўнага кодэкса).

СПОСАБЫ ЎЗДЗЕЯННЯ:

❖ Распрацаваць метадычны дапаможнік з парадамі юрыстаў, як адстойваць свае моўным правы.

❖ Рэгулярна ладзіць ва ўсіх рэгіёнах краіны семінары, трэнінгі лідэраў грамадскіх арганізацый, канферэнцыі з мэтай азнаямлення з правамі грамадзян у моўнай сферы і метадамі ўціску (лабіравання) на ўлады па забеспячэнні функцыянавання беларускай мовы.

❖ Прынцыпова не пакідаць ніводнага факта ігнаравання беларускай мовы ў адзначаных сферах (татальнае рэагаванне).

❖ Калі на ўлады не ўздзейнічаюць ні якія разумныя аргументы, варта пераходзіць да грамадскіх акцыяў: збор подпісаў пад патрабаваннем, наладжванне пікетаў, мітынгаў.

Мэтанакіраваная і паслядоўная грамадская дзейнасць заўсёды прымушае ўлады схіліцца да выканання патрабаванняў грамадскасці.

**Раздзел III.**
**Паляпшэнне стаўлення да беларускай мовы**

Быццё любой мовы не ў малой ступені вызначаецца стаўленнем да яе з боку яе носьбітаў і ўсяго грамадства ў цэлым. Толькі "вялікія" мовы могуць быць у пэўным сэнсе "індыферэнтнымі" да таго, як яны ацэньваюцца моўнымі калектывамі, у якіх яны ўжываюцца. Што ж да "малых" і, асабліва, загрожаных моў, то адносіны да іх маюць вялікае значэнне: яны могуць захоўвацца і паспяхова развівацца толькі пры ўмове станоўчага стаўлення да іх у грамадстве.

**3.1 На адносіны да розных моў уплываюць розныя акалічнасці:**

**А. Ступень ужывальнасці мовы ў грамадстве**

Са значнай доляй верагоднасці можна прадказаць, што да мовы, якая рэальна пануе доўгі час у самых розных жыццёвых сферах наўрад сфармуецца ўстойлівае негатыўнае стаўленне, якое будуць падзяляць шырокія слаі грамадства. Паколькі, напрыклад нейкая мова шырока ўжываецца ў грамадстве, паколькі без яе ведання і выкарыстання цяжка абысціся ў жыцці, пастолькі гэтая мова з'яўляецца "мовай хлеба", пастолькі яна *карысная* (між тым, далёка нямногія людзі будуць свядома дзейнічаць насуперак уласнай карысці).

Зыходзячы з гэтага трэба ўсяляк спрыяць пашырэнню ўжывання беларускай мовы ў грамадстве (гэтаму кірунку прысвечаны раздзел *Забеспячэнне магчымасцяў для ўжывання беларускай мовы)*

**Б. Трывалы імідж мовы і яе носьбітаў у грамадстве**

Сярод рысаў, якія могуць вызначаць імідж розных моў, можна назваць наступныя:

1. "прэстыжная"; прыдатная да выканання самых розных і, асабліва, высокіх функцый у грамадстве (дзяржаўнае кіраванне, адукацыя, СМІ, бізнес, індустрыя адпачынку), такая, пры дапамозе якой можна атрымаць высокааплатную працу.

2. "непрэстыжная"; прыдатная да выканання, пераважна, ніжэйшых функцый у грамадстве (побытавыя зносіны, сельскагаспадарчая вытворчасць), такая, якая не патрабуецца, каб атрымаць высокааплатную працу.

3. "багатая", "развітая", "дасканалая" (з развітай сістэмай для розных сітуацый).

4. "бедная", "неразвітая", "недасканалая" (якая становіцца ў працэсе станаўлення).

Можна меркаваць, што, быўшы ўвесь час параўноўванай з рускай, беларуская мова хутчэй атрымлівае характарыстыкі негатыўнага характару: яна "непрэстыжная" і, хутчэй, "недастаткова развітая" і "недасканалая". (У гэтым выпадку ідзецца не столькі пра рэальную "недаразвітасць" ці "недасканаласць" беларускай мовы, колькі пра вобразы якія могуць сфармавацца, напрыклад, у камп'ютарнага карыстальніка, які ні разу не сутыкаўся з беларускай мовай у камп'ютары, або ў студэнта ўніверсітэта, які падчас вучобы не можа карыстацца вялікім англійска- ці нямецка-беларускім слоўнікамі, паколькі іх проста не існуе ў прыродзе.)

У цэлым на трывалы імідж мовы вельмі цяжка ўплываць, бо ён знаходзіцца па-за сферамі ўплыву Таварыства, аднак рэзервы для працы ёсць і тут. Трэба імкнуцца да таго, каб беларуская мова асацыявалася не толькі і з традыцыяй ці нацыянальнай ідэнтычнасцю, колькі з сучасным інфарматызаваным светам. У прапагандысцкай дзейнасці варта адыходзіць ад ляманту і плачу, трэба імкнуцца пазбягаць замацавання за беларускамоўнымі псіхалагічна вельмі невыгоднага вобразу выключна пакрыўджаных, абнядоленых. Паколькі рэальна правы беларускамоўных людзей спрэс парушаюцца, то не абыйсціся без рэзкіх ацэнак, якія могуць спрыяць развіццю і замацаванню за беларускамоўнымі людзьмі непажаданых асацыяцый; увогуле ж пратэсты трэба дазіраваць з сцвярджальнымі заявамі і ні ў якім разе нельга ўпадаць у істэрыку. Паколькі рэальным выбарам меншых народаў у свеце становіцца двухмоўе і трохмоўе, то ад прапаганды аднамоўя, якое Таварыства дагэтуль абагаўляла, трэба перайсці да актыўнай прапаганды двухмоўя і трохмоўя. Значная частка беларускамоўных людзей з'яўляецца папраўдзе як мінімум двухмоўнымі, і ў гэтым сэнсе беларускамоўныя людзі лепш адпавядаюць імператыву сучаснасці, згодна з якім шматмоўе не мае альтэрнатывы. З другога боку, рускамоўныя людзі Беларусі занадта часта аднамоўныя. Чалавек, які валодае беларускай мовай, верагодна, больш падрыхтаваны ў моўным плане ў цэлым, і гэту акалічнасць варта выкарыстоўваць у прапагандзе.

Трэба дабівацца таго, каб валоданне беларускай мовай стала кваліфікацыйнай умовай для атрымання розных рабочых месцаў, звязаных з грамадскай сферай. (Больш падрабязна гэты кірунак асэнсоўваецца ў раздзеле *Юрыдычная падтрымка/забеспячэнне мовы*) Акрамя таго, клопатам Таварыства мае быць садзеянне падрыхтоўцы разнастайных беларускамоўных падручнікаў, перакладной літаратуры (не толькі і нават не столькі мастацкай!), слоўнікаў, а таксама зняцце ці, прынамсі, памякчэнне напружання, якое існуе ў сувязі з існаваннем у межах беларускай мовы дзвюх правапісных традыцый. Важным інструментам паляпшэння стаўлення да беларускай мовы з'яўляецца паляпшэнне яе іміджу ў друкаванай навукова-папулярнай літаратуры.

**В. "Бягучы" імідж мовы і яе носьбітаў у грамадстве**

Тут маюцца на ўвазе характарыстыкі, якія тая або іншая мова можа атрымліваць у больш-менш шырокіх колах грамадства ў сувязі з якімі-небудзь зменамі ў правядзенні моўнай палітыкі. Напрыклад, дзякуючы недастаткова прафесійнай дзейнасці выканальнікаў Закона аб мовах 1990 года і прапагандзе сілаў, настаўленых да беларускай мовы агрэсіўна, у першай палове 90-ых гадоў сярод пэўнай, дэмакратычна арыентаванай, часткі грамадства мог скласціся вобраз беларускай мовы як "мовы, якая гвалтам навязваецца дзяржавай і недастаткова адукаванымі людзьмі".

Пры тым, што ва ўмовах Беларусі з яе доўгай традыцыяй падаўлення асобы вобраз "навязванай дзяржавай мовы" можа быць карысны ("простыя" людзі маюць тэндэнцыю абагаўляць уладу і, значыць, успрымаць усё, што ад яе зыходзіць, як "божы дар"), цяпер, у сувязі са з'яўленнем у Беларусі парасткаў цывільнага грамадства, з'явіліся і сілы, якія ўспрымаюць пашырэнне беларускай мовы пры дапамозе сродкаў дзяржаўнага рэгулявання не інакш як "перажытак таталітарызму". Грубыя, недастаткова прадуманыя заходы дзеля пашырэння беларускай мовы могуць атрымліваць вельмі непажаданы розгалас у грамадстве, што можна назіраць на прыкладзе таго, што некаторыя дзеянні актывістаў ТБМ у першай палове 90-ых спрычыніліся да з'яўлення ярлыкоў тыпу: актывісты ТБМ – гэта "граждане в галифе", а ТБМ – гэта "языковая полиция".

Выснова: Трэба спрыяць паляпшэнню іміджу ТБМ як арганізацыі высокаадукаваных, культурных, дэмакратычна настроеных, актыўных людзей, якія выконваюць важныя для беларускага грамадства задачы.

**3.2 Юрыдычная падтрымка/забеспячэнне мовы**

(раздзел пакуль не распрацаваны недастаткова, але гл. раздзел *Органы дзяржаўнага кіравання і юрыдычная база*)

**3.3 Змена звычак моўнага ўжывання**

Больш шырокаму ўжыванню беларускай мовы трэба садзейнічаць праз паглыбленне даверу з боку беларускамоўных людзей да такога ўжывання. Не сакрэт, што існуе вялікае разыходжанне паміж колькасцю людзей, якія валодаюць беларускай мовай, і колькасцю людзей, якія рэальна карыстаюцца ёй у самых розных жыццёвых сітуацыях (першых намнога больш, чым другіх). Традыцыя неўжывання беларускай мовы мае асабліва глыбокія і трывалыя карані ў гарадскім асяроддзі. Да неўжывальнасці беларускай мовы ў пэўных сітуацыях і сферах спрычыніліся дзве акалічнасці:

1. Некаторыя жыццёвыя сферы маюць вельмі нетрывалую традыцыю выкарыстання беларускай мовы або і не маюць яе зусім (вышэйшая адукацыя, даследчыцкая дзейнасць у галіне тэхнічных навук, судаводства, сучасны бізнес, заканадаўства, буйная камерцыя, дыпламатыя, вайсковая справа, банкаўская справа і інш.). На сёння гэтыя сферы слаба прыстасаваны для выкарыстання ў іх беларускай мовы. У іх працуе ніжэйшая за сярэднюю колькасць людзей, што ведаюць беларускую мову; не вядзецца справаводства па-беларуску; не існуе "базавых" беларускамоўных матэрыялаў, якія шырока ўжываюцца ў гэтых сферах, і г. д.

2. Спадзеючыся пераважна на паспяховае правядзенне беларусізацыі "зверху" з дапамогай моўнага закона і адміністрацыйных заходаў, многія носьбіты беларускай мовы, у тым ліку і актывісты ТБМ, не лічаць патрэбным карыстацца ў многіх "праблемных" сферах і сітуацыях беларускай мовай, чым сярод іншага не стымулююць пашырэння беларускай мовы ў гэтых сферах.

Адпаведна, паглыбленню даверу да беларускамоўнага ўжывання трэба садзейнічаць з двух бакоў: праз прыстасаванне розных жыццёвых сфераў да беларускамоўных зносін (пра гэта гаворка вядзецца ў раздзеле *"Забеспячэнне магчымасцяў для выкарыстання мовы")* і праз стымуляванне беларускамоўных людзей да як мага больш шырокага ўжывання беларускай мовы ў самых розных сферах жыцця. Існуе пільная патрэба значна пашырыць ужыванне беларускай мовы за кошт яе "схаваных" носьбітаў, змяніць моўныя звычкі людзей, якія валодаюць беларускай мовай.

**Раздзел IV**
**Рэсурсавае забеспячэнне**

Распрацаваная стратэгія вымагае матэрыяльных рэсурсаў. Таму неабходна з дапамогай спецыялістаў дакладна вызначыць колькасць фінансавых сродкаў для выканання мерапрыемстваў, прадугледжаных у Стратэгіі.

**Аснову фінансавага падмурку павінны складаць:**

❖ складкі чальцоў арганізацый, што падтрымліваць палажэнні дадзенай Стратэгіі;

❖ добрадзейныя даткі (ахвяраванні) грамадзян Беларусі і беларускіх дыяспар у іншых краінах свету;

❖ фінансавая дапамога суб'ектаў гаспадарання Беларусі;

❖ доўгатэрміновыя міжнародныя праграмы накіраваныя на пабудову цывільнага грамадства;

❖ дапамога Еўрапейскага Саюза, накіраваная на развіццё еўрапейскіх моў;

❖ пры ўмовах змены стаўлення кіраўніцтва краіны да развіцця мовы тытульнага этнасу Беларусі – фінансаванне па дзяржаўных праграмах.

***Заўвага:**
**Фармальныя патрабаванні да ўкладання Стратэгіі**

У канчатковым выглядзе любы пункт-кірунак будзе ўключаны ў Стратэгію ў тым выпадку, калі ініцыятар(ы) яго далучэння падасць (пададуць) пры ім наступныя суправаджальныя графы:

1. Механізм рэалізацыі. У ёй будзе тлумачыцца, хто і пры дапамозе якіх дзеянняў будзе рэалізоўваць дадзены пункт.

2. Неабходнае рэсурсавае забеспячэнне. У ёй будзе тлумачыцца, якія людскія, арганізацыйныя, матэрыяльныя, фінансавыя і часавыя рэсурсы патрэбны для выканання дадзенага пункта.

3. Канкрэтныя задачы/праекты. У ёй будуць называцца

а) зусім канкрэтныя (*"інструментальныя", прамежкавыя*) задачы/праекты, якія павінны быць ажыццёўлены для забеспячэння выканання дадзенага напрамку, і/або

б) канкрэтныя задачы/праекты, *якія будуць выкананы як вынік* дзейнасці ў дадзеным напрамку ў цэлым.

Наяўнасць гэтых запоўненых граф дазволіць у будучыні адабраць для рэалізацыі першачарговыя і непершачарговыя праекты, а таксама скласці лагічны і выразны план дзейнасці Таварыства.

Свае заўвагі і даткі просім дасылаць на адрас ТБМ (220005, Менск, вул. Румянцава, 13; факс 284-85-11) з пазнакай "Стратэгія" або на электронны адрас камісіі па міжнародных сувязях (intern@tbm.org.by).

# Семінар “Я магу жыць лепей” заваёўвае слухача

Вось ужо прайшло паўгода, як Вячка Станкевіч звярнуўся ў Таварыства беларускай мовы з прапановай наладзіць правядзенне семінараў “Я магу жыць лепей”. За гэты час адбылося каля 20 заняткаў. Першыя семінары праводзіліся ў Менску , але цягам апошніх месяцаў семінар стаў асвойваць рэгіянальную прастору Беларусі. Плённымі сталіся заняткі ў Магілёве, Лідзе, Асіповічах, Клецку. А нядаўна гасцей з Менска прымалі актывісты Пухавіцкага раёна.

Людзей цікавіла ўсё: палітычныя, эканамічныя, культурніцкія праблемы ў краіне. Старшыня ТБМ Алег Трусаў гаварыў пра надзённыя справы Таварыства, пра акалічнасць выпрацоўкі Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы, пра стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта. Цікавіліся людзі і падрыхтоўкай да прэзідэнцкіх выбараў, перспектывамі жыцця Беларусі.

Я праводзіла заняткі семінару. Такую гнуткую, захопленую аўдыторыю рэдка прыходзіцца бачыць. Людзей цікавілі праблемы ўзаемаадносінаў у сям’і, на працы, са знаёмымі і незнаёмымі. З цікавасцю ўспрымаліся рэкамендацыі па павышэнні свайго фінансавага становішча, тэхналогіі і паляпшэння жыцця ва ўсіх сферах.

Правёўшы шэраг семінараў, мушу заўважыць, што сёння людзям, як ніколі, патрэбныя веды па тым, як быць гаспадаром сваіх эмоцый, як набываць раўнавагу ў жыцці, як навучыцца жыць у згодзе з самім сабой і навакольным светам. Пасля бальшавіцкай дыктатуры нашым людзям цяжка арыентавацца ў грамадстве, мы хваравіта рэагуем на пэўныя працэсы, успрымаем звычайныя жыццёвыя праблемы як пакуту і стараемся схавацца ад іх кожны ў сваю норку. Але рана ці позна нара разваліцца – і чалавек паўстае перад усімі, прыдушаны цяжарам уяўных або рэальных згрызот. Самота, сіроцтва, стрэс пранікаюць у душу чалавека і разбураюць яе.

Падчас семінару я бачыла самыя розныя вочы – недаверлівыя, патухлыя, абыякавыя, калючыя. Вочы людзей Пухавіччыны вызначаліся цікаўнасцю, захапленнем, верай і надзеяй. Некаторыя шкадавалі, што не ўзялі з сабой дзяцей, выкладчыкі сельскагаспадарчага каледжа планавалі, як правесці семінар для навучэнцаў.

Увогуле, я лічу, што настаў час пераменаў. Народ хоча зменаў і ў асабістым жыцці, і ў грамадстве. Збрыдлае існаванне вяжа ўсіх нас па руках і нагах, вісне на плячах. Але для таго, каб змены сталіся рэальнасцю, трэба спачатку перамяніць спосаб мыслення, навучыцца па-іншаму ўспрымаць сябе, людзей і жыццё. Гэтаму вучацца слухачы на занятках семінару “Я магу жыць лепей”. Пасля наведвання заняткаў людзі пазбаўляюцца многіх страхаў, дэпрэсій, набываюць упэўненасць, умець шукаць шляхі выхаду з любога становішча. Я потым сустракаюся з маімі слухачамі, праводжу кансультацыі, назіраю за зменамі. Прыемна адчуваць, як людзі адшукваюць у сабе магутную сілу, божую іскру, распальваючы яе ў вогнішча духоўнага святла. Добра, што ў гэтай прасторы сёння знаходзяцца і мае ўдзячныя мар’інагорцы, якія могуць і будуць жыць лепей.

*Людміла Дзіцэвіч,*
*намеснік старшыні ТБМ.*

# “Жыццё пражыць – не поле перайсці”

*У Таварыстве Беларускай Культуры адбылася сустрэча вучняў беларускага ліцэю з кіраўніком Хведарам Нюнькам. Пазнаёміліся з дзейнасцю Таварыства, на памяць аб сустрэчы кожны ліцэіст атрымаў кнігі, выдадзеныя ў Вільні ТБК ,у тым ліку і ўспаміны Хведара Нюнькі. Дамовіліся, што гэтая сустрэча будзе не апошняя. І трэба было б толькі радавацца повязі пакаленняў, каб не наша нацыянальная бяда – паміж сабой ліцэісты размаўляюць па-руску.*

***Леакадзія Мілаш.***

***“Не было ў мяне і думкі, каб пачаць пісаць дзённік, аб перажытым. Але шматразовы напамін аб гэтым Сямёна Шарэцкага спрычыніўся да гэтага”, - так пачынае сваю кнігу “Мае ўспаміны”*** Хведар Нюнька, якая выйшла ў выдавецтве ТБК у Вільні.

Так пабудавана жыццё – адныя адыходзяць, другія прыходзяць. Чалавецтва ўступіла ў трэцяе тысячагоддзе. Сёння Хведар Нюнька – наш сучаснік – шаноўны і паважаны сваёй дзейнасцю чалавек, вядомы беларускі дзеяч, які браў актыўны ўдзел у адраджэнцкім руху ў Вільні і Беларусі, браўся за такія справы, якія другім здаваліся безнадзейнымі і безкарысна служыць ідэі. Ён прыклад адданасці справе, якую даводзіць да канца. Акрамя таго вельмі добры чалавек, часам дабрыня пераходзіць межы. Таму і ўспаміны яго каштоўныя для нашчадкаў. Мяне заўсёды здзіўляла і захапляла дасканалае веданне пяці моў, маючы тэхнічную адукацыю. Нямецкая і польская мовы з школы, беларуская – у генах, літоўскую і рускую вывучаць пачаў у Літве. Нарадзіўся на шчучыншчыне, потым сям’я ў пошуках працы пераехала ў Масты, а пасля і ў Вільню. Валоданне нямецкай мовай у ваенны перыяд Хведару дапамагло выратаваць жыцці многім людзям. Школа, у якой вучыўся Хведар Нюнька, стала кузьняй патрыётаў Бацькаўшчыны, многім дапамагла зразумець кім яны з’яўляюцца, таму Хведар Нюнька ўступае ў Беларускую Самапомач. У 1943 годзе сям’я пераехала ў Вільню. Далей у кнізе аўтар піша, што бацька ўмеў з людзьмі падтрымліваць добрыя адносіны, людзі яго паважалі, быў вельмі слоўны: калі штосьці абяцаў, дык абавязкова выконваў. Гэта ж можна сказаць і аб самім аўтары, з поўнай адказнасцю паведамляю, бо ведаю ўжо больш дванаццаці гадоў. заканчвае кнігу Хведар Нюнька аповедам пра стварэнне беларускіх супольнак у Вільні напрыканцы XX стагоддзя ініцыятарам якіх быў сам і браў непасрэдны актыўны ўдзел, у якіх актыўна ўдзельнічала і я. мне пашчасціла быць блізка знаёмай і разам працаваць з гэтым цудоўным чалавекам. І як каштоўная рэліквія на паліцы маёй уласнай бібліятэкі пачэснае месца займае сціплая кніжка Хве-дара Нюнькі “Мае ўспамі-ны” з аўтографам аўтара. “Дарагому сябру і аднадумцу Леакадзіі Мілаш на добрую памяць”. У ТБК адбылася прэзентацыя. Прагучала пажаданне прадоўжыць, бо пражытае і перажытае патрабуе не адну такую кнігу. У добры шлях! Мастацкае афармленне Алега Аблажэя.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня,*
*сакавік 2001 г.*

# “Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года”

## XXVI. Тураў рог Гедыміна, 1321 г.

Паводле легенды, запісанай у Літоўскай кроніцы, а потым ува ўсіх іншых, Вялікі князь Гедымін забіў тура над Віллёй на гары, якую пачалі называць Туравай. Рогі тура Гедымін загадаў аправіць у золата і захоўваў разам з вялікакняскімі рэліквіямі. 9-29 студзеня 1429 года ў Луцку на Валыні адбылася сустрэча Вялікага князя Вітаўта, караля Ягайлы і імператара Святой рымскай імперыі, караля венгерскага і чэшскага Жыгімонта І, сына Карла IV. Жыгімонт І быў пасярэднікам паміж Вітаўтам і папам Рымскім у атрыманні Вітаўтам каралеўскай кароны. Для таго, каб заручыцца большай прыязнасцю імператара, Вітаўт падараваў Жыгімонту сямейную рэліквію, тураў рог свайго дзеда Гадыміна. Як вядома, каралеўскую карону Вітаўта палякі ўкралі, а Жыгімонта ўва ўсіх кроніках абвясцілі ворагам Літвы і Польшчы.

**Словы Я.Чачота** **Музыка Я. Петрашэвіча**
**Пераклад К. Цвіркі**




Тут у Вільні, на гары
Туравай вядомай
Гедымін пад стромай
Тура ўклаў быў пры бары,
На гары!

Нам на памяць – тураў рог
Быў пазалачоны,
Гожа аздаблёны.
Князь яго схаваў у лёх,
Тураў рог.

З рога тога Вітаўт піў
Разам з каралямі,
З важнымі панамі.
Як іх з’езд у Луцку быў,
З рога піў.

Падарыў князь гэты рог
За сталом, па-людску,
Зыгмунту ў тым Луцку,
Ды Літве ён не памог…
Дзе ж той рог?



У Беларускім дзяржаўным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску адбылася прэм’ера спектакля “Зямля” па матывах творчай біяграфіі Якуба Коласа. Пастаноўку ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра Віталь Баркоўскі.

На здымку: сцэна са спектакля “Зямля”.
**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 9. 04. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 966.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.